ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 46 (145) 8 - 14 сьнежня 1995 г. Кошт 600 рублёў

## 10 сьнежня - выбары ў Вярхоўны Савет.

# Заклікаем вас абавязкова прыйсьці на выбарчыя ўчасткі!

## Галасуйце за кандыдатаў Беларускага Народнага Фронту - надзейных, сумленных, адукаваных.

Гродзенская-Болдзінская выбарчая акруга N 121



**ОСІПАВА**

**Галіна Тухтараўна**

Юрыст. Кандыдат юрыдычных навук. Дацэнт кафедры грамадзянкага права і працэсу Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. 43 гады. Казашка. Член АДПБ. Пражывае на пр. Будаўнікоў. Мае сына і дачку.

Гродзенская-Горкаўская выбарчая акруга N 122



**МАЛЬЧЫК**

**Сяргей Сьцяпанавіч.**

Урач. Кандыдат медыцынскіх навук. Дацэнт кафедры паталагічнай фізіялогіі Гродзенскага медыцынскага інстытута. 34 гады. Беларус. Мае двух сыноў. Пражывае ў інтэрнаце па БЛК.

Гродзенская-Дзяржынская выбарчая акруга N 123



**ЗАДАЛЯ**

**Валеры Сьцяпанавіч.**

Журналіст, эканаміст, палітолаг. Намесьнік старшыні абласнога тэлерадыёаб'яднаньня. Дэпутат абласнога Савета. 42 гады. Беларус. Мае сына. Пражывае на вуліцы Сацыялістычная.

Гродзенская-Пралетарская выбарчая акруга N 124



**ЖЫНЬ**

**Кастусь Уладзіміравіч.**

Інжынер-электрык. Начальнік аддзела капітальнага будаўніцтва «Гроднаэнэрга». 48 гадоў. Беларус. Мае дачку. Старшыня Гродзенскай гарадской Рады БНФ «Адраджэньне».

Гродзенская-Прынёманская выбарчая акруга N 125



**МАРКЕВІЧ**

**Мікалай Мікалаевіч.**

Журналіст. Рэдактар газеты «Пагоня». 33 гады. Беларус. Мае двух сыноў і дачку. Пражывае на праспекце 40 год Перамогі. Сябра Апазіцыі у Вярхоўным Савеце.

## ЧАГО СПАЛОХАЎСЯ ПРЭЗІДЭНТ?

Камянтуючы рэакцыю прэзідэнта на вынікі паўторных парламанцкіх выбараў, начальнік галоўнага ўпраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта паведаміў:»Прэзідэнт задаволены вынікамі выбараў, асабліва тым, што на паўторных выбарах былі абраны новыя людзі». Спадар Замяталін адмовіўся пацьвердзіць, ці абвергнуць інфармацыю аб тым, што 30 лістапада адбылася экстраная чатырохгадзінная нарада прэзідэнта з старшынямі аблвыканкамаў. Тэма нарады датычылася другога тура паўторных выбараў, які пройдзе 10 сьнежня.

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА СУСТРЭЎСЯ З КЕБІЧАМ

28 лістапада, па ініцыятыве А.Лукашэнкі адбылася сустрэча прэзідэнта з экс-прэм'ерам Беларускага Ураду Вячаславам Кебічам. Добра інфармаваная крыніца паведаміла, што Лукашэнка спрабаваў раз'упэўніць Кебіча ў тым, што «скандал з векселямі» быў арганізаваны з падачы прэзідэнта. А.Лукашэнка паведаміў, што скандал арганізавалі яго «бездарные помощники», а сам прэзідэнт жадае бачыць Вячаслава Кебіча сьпікерам новага парламанту. Экс-старшыня ўраду ўспрыняў прапанову стрымана, ні сказаўшы ні так, ні не. Аляксандр Лукашэнка прасіў таксама ў Кебіча дапамогі ў арганізацыі візіту расейскага віцэ-прэм'ера Алега Саскаўца.

# ЯК ГАЛАСУЕМ - ТАК І ЖЫВЕМ !

**У другі тур паўторных выбараў на Гарадзеншчыне прайшло 7 кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савету ад Беларускага Народнага Фронту. Лічбы галасоў, пададзеных за іх, настройваюць на ўмераны аптымізм. Па-першае, колькасьць людзей, якія вызваляюцца ад узьдзеяньня куродыму афіцыйнай прапаганды, крыху павялічылася. Па-другое - і гэта, бадай, самае істотнае - дзякуючы таму, што выбары 29 лістапада адбыліся па ўсім акругам, выбіты самы галоўны тэзіс Лукашэнкі - народу не патрэбна ніякая іншая ўлада акрамя ўлады прэзідэнта.**

Хочацца верыць, што падобны зрух грамадзкай думкі ў бок здаровага сэнсу цалкам усьвядомлены і будзе мець працяг 10 сьнежня. Бо пытаньне аб тым, хто будзе прадстаўляць інтарэсы людзей, якім непатрэбныя ніякія «-ізмы», а толькі нармальнае жыцьцё ў нармальных умовах, застаецца адкрытым. Паўторнае галасаваньне стане сур'ёзнай праверкай на нашую палітычную актыўнасьць і кансалідацыю перад пагрозай сваволі і самадурства кіруючага рэжыму, які з кожным днём усё больш і больш пацьвярджае сваю няздольнасьць вывесьці краіну з тупіка.

Вытокі паглыбляючагася ў нас на вачах крызісу - ня ў тым, што разбураюцца старыя парадкі, а ў тым, што яны ліквідуюць марудна і з аглядкай, у тым, што яны своечасова ня замяшчаюцца новай уладай, новай эканомікай, новымі каштоўнасьцямі. Хопіць даганяць учарашні дзень. Пара думаць пра рэальную перспектыву, пра тое, якую спадчыну мыаставім сваім дзецям.

Я заклікаю вас прыняць удзел у выбарах. Лукашэнка-кебічы абабралі і прынізілі нас усіх. Цяпер ім выгадна нашая абыякавасьць. Гэта канчаткова разьвяжа ім рукі для поўнага беззаконьня і дыктатуры. Але гісторыя сьведчыць - усе дыктатуры вядуць да голаду, рэпрэсій, крыві.

Наша права і наш абавязак - не дапусьціць гэтага.

**МІКОЛА МАРКЕВІЧ**

### *ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСНАЯ КАМПАНІЯ!*

На **"ПАГОНЮ"** Вы можаце падпісацца ў любым аддзяленьні сувязі. Кошт падпіскі на паўгоддзе - 48 тысяч рублёў, на квартал - 24 тысячы, на месяц - 8 тысяч рублёў.

**Не адкладвайце на заўтра тое, што можна зрабіць сёньня!**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі Беларусі
"Белсаюздрук"

**АБАНЭМЭНТ** на газэту 63124

ПАГОНЯ

Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | Месца | літар

на газэту 63124

ПАГОНЯ

Кошт: падпіскі 48000 руб.; пера-адрасоўкі ____ руб. Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)





# ЯБЛЫК ЯД ЯБЛЫНІ НЕДАЛЁКА ПАДАЕ.

## АЛЬБО ЎСЁ МОГУЦЬ КАРАЛІ З ВЕРТЫКАЛІ

**Як сьнежны ком працягвае разрастацца скандал вакол вылучэньня і рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты па Болдзінскай выбарчай акрузе N121 Сяргея Гараева. У бліжэйшы час можна чакаць, што Генеральная пракуратура краіны абскардзіць рашэньне Вярхоўнага суда па гэтаму пытаньню.**

Нагадаем, што акруговая камісія ў Горадні на законных падставах у свой час адмовіла зарэгістраваць кандыдатуру начальніка Галоўнага ўпраўленьня службы кантролю адміністрацыі прэзідэнта па Гарадзенскай вобласьці. Працоўныя калектывы (ЖРЭУ Ленінскага раёна і паліклініка N1) ня мелі права вылучаць сп. Гараева па Болдзінскай выбарчай акрузе, бо ЖРЭУ знаходзіцца на тэрыторыі іншай акругі, а паліклініка не зьяўляецца юрыдычнай асобай. Тым ня менш, юрыст Гараеў, зрабіўшы такія дзіцячыя памылкі, вырашыў усё ж дабіцца свайго. Пасьля таго, як яго скаргу адхіліла і Цэнтральная выбарчая камісія ў Менску, Сяргей Гараеў зьвярнуўся ў Вярхоўны суд, які вынес рашэньне аб тым, што кандыдатура галоўнага «кантралёра» Гарадзеншчыны павінна быць зарэгістраваная, што і было зроблена.

Аднак, усе гэтыя падзеі - толькі вяршыня айсбергу. Прысутныя на прэсканферэнцыі ў аблвыканкаме, якая адбылася 6 сьнежня і закранала пытаньні выбараў, журналісты з вуснаў адказнага за выбары ў Вярхоўны Савет па Гарадзенскай вобласьці Сяргея Дайнэкі даведаліся шмат цікавага аб тым, як разгортваліся ўсе гэтыя падзеі. Вядучы кансультант аддзела арганізацыйна-кадравай работы аблвыканкаму, у прыватнасьці, адзначыў, што сп. Гараеў прадставіў Вярхоўнаму суду фіктыўныя дакументы, згодна з якімі паліклініка N1 зьяўляецца юрыдычнай асобай. Гэтыя паперы Сяргей Шакіравіч атрымаў ад галоўнага ўрача Першага медыцынскага тэрытарыяльнага аб'яднаньня сп. Курбаева. Калі суд ужо схіляўся прызнаць патрабаваньне Гараева законным, прадстаўнік Цэнтрвыбаркаму паклаў перад суддзямі акт аб выніках праверкі правядзеньня сходу працоўнага калектыву паліклінікі N1, у якім адзначалася, што больш 30 супрацоўнікаў гэтай установы, уключаных у сьпіс удзельнікаў сходу, на самой справе там не былі! Хтосьці з іх быў на вучобе ў Менску, хтосьці ўвогуле ўжо не працуе ў паліклініцы, хтосьці вёў прыём хворых і г.д. Пасьля гэтага паседжаньне судовай калегіі было перанесена на 15 лістапада. Планавалася, што туды будзе запрошаны прадстаўнік акруговай камісіі з Горадні.

Напярэдадні паседжаньня сп. Гараеў заходзіць у арганізацыйны аддзел аблвыканкама да сп. Біруковай і заяўляе, што здымае ўсе свае абвінавачваньні ў адрас акруговай камісіі, адкликае скаргі з суда і просіць за ўсё прабачэньня. Пры гэтым некалькі разоў удакладнее, ці паедзе хто з Горадні на паседжаньне Вярхоўнага суда.

Пасьля гэтага едзе ў Менск і адтуль па тэлефоне паведамляе сп. Біруковай, што за ноч перадумаў і разгляд справы ў судзе працягнецца. У выніку Вярхоўны суд, без разгляду акту акруговай камісіі на падставе дакумантаў Гараева, абавязаў Цэнтрвыбаркам зарэгістраваць сп. Гараева кандыдатам.

Акруговая камісія, выканаўшы рашэньне суда аб рэгістрацыі, зьвярнулася з пратэстам да старшыні Вярхоўнага суда, у Генеральную пракуратуру, у пракуратуру вобласьці. Апошняя правяла яшчэ адну праверку правядзеньня хода ў паліклініцы N1, у выніку якой была выяўлена яшчэ большая колькасьць парушэньняў.

Сп. Дайнэка, камянтуючы гэтую сітуацыю, заявіў, што пры любым зыходзе выбараў сп. Гараеў не павінен быць дэпутатам. Тым, хто зьбіраецца ў парламанцe пісаць законы, сваім прыкладам паказваць узор іх выкананьня, паводзіць так сябе нельга.

На пытаньне карэспандэнта «Пагоні» аб тым, як будуць разьвівацца падзеі, калі Вярхоўны суд усё ж зьменіць сваё рашэньне, Сяргей Дайнэка сказаў, што наўрад ці суд захоча прызнаваць свае памылкі. Тым больш, што махавік выбараў ужо закруціўся. Таму ўсё павінны вырашыць выбаршчыкі. Калі усё ж сп. Гараеў і будзе абраны дэпутатам, то акруговая камісія ўсе матэрыялы накіруе ў мандатную камісію, якая мае права адмовіць Гараеву ў прзнаньні паўнамоцтваў.

Як бы не скончылася гэтая справа, выдатна характарызуючая стан законнасьці ў краіне, варта адзначыць, што Вярхоўны суд стварыў небясьпечны прэцэдэнт, прызнаўшы насуперак закона правамоцнасьць вылучэньня кандыдата Гараева працоўным калектывам, які не зьяўляецца юрыдычнай асобай. Зазначым, што дзесяткі патэнцыяльных кандыдатаў не былі зарэгістраваныя менавіта з-за парушэньня гэтага пункта Закона аб выбарах. Сярод іх сустракаюцца і прозьвішчы адказных асобаў высокага рангу. Людміла Школьнік - старшыня Кастрычніцкага райсавету, Барыс Казялкоў - старшыня Ленінскага райвыканкаму, Вячаслаў Шпак - дырэктар вытворчага аб'яднаньня жыльлёва-камунальнай гаспадаркі і шэраг іншых. Як яны адчуваюць сябе ў гэтай сітуацыі? Чым яны горшыя за Гараева? Можа таму, што ўсе ходзяць пад богам, а Сяргей Шакіравіч пад прэзідэнтам?

**Вінцук Мальскі.**

# ЗВАРОТ ТАДЭВУША ГАВІНА ДА ВЫБАРШЧЫКАЎ ГРОДЗЕНСКАЙ СЕЛЬСКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУГІ N127

Надзвычайныя абставіны прымусілі мяне зьвярнуцца да Вас, шаноўныя выбаршчыкі, з гэтым лістом, у якім я хачу выказаць шчырую падзяку усім тым, хто паставіў свае подпісы, каб вылучыць мяне як вясной, так і восеньню бягучага года кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савету, усім тым, хто аддаў за мяне свае галасы 29 лістапада.

У выніку па акрузе сярод 5 кандыдатаў, я набраў найбольшую колькасьць галасоў 5537, пакінуўшы далёка за сабой астатніх прэтэндэнтаў. Так было і пад час вясновых выбараў, але дэпутатам я ня стаў. Ня лепшы мой прагноз і на другі тур галасаваньня - 10 сьнежня.

Таму 4 сьнежня 1995 года вымушаны быў зьвярнуцца да старшыні акруговай выбарчай камісіі Гродзенскай сельскай выбарчай акругі N 127 па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь з наступным:

Будучы сьведкам фабрыкацыі вынікаў выбараў вясной гэтага года ў маёй выбарчай акрузе з боку прадстаўнікоў Гродзенскага райвыканкаму на выбарчых участках, якая праявілася ў тым, што на шэрагу ўчасткаў мой электарат быў пазбаўлены магчымасьці ўдзелу ў выбарах і ў сувязі з тым, што да іх, як гэта было заўсёды, з урнамі ніхто не выязджаў, і беручы пад увагу тое, што метады дзейнасьці камісій ня зьменяцца і ў другім туры галасаваньня (такія сігналы да мяне даходзяць), а таксама маючы жаданьне не падвяргаць больш мой электарат націскам з боку ўлад, прашу маю кандыдатару з другога тура галасаваньня зьняць.

Такое мае рашэньне прашу таксама лічыць і як мой пратэст супраць такога Закона аб выбарах, які садзейнічае таму, што ў сельскіх выбарчых акругах у парламант можа быць праведзены кожны, каго толькі ўлада бачыць там пажадае.

5 сьнежня я быў выкліканы на пасяджэньне акруговай выбарчай камісіі, дзе прывёў канкрэтныя прыклады парушэньня закона аб выбарах, якія прымусілі мяне выступіць з палітычным пратэстам.

У гэтым пратэсьце маё галоўнае патрабаваньне ў тым, каб акруговая і выбарчая камісіі забясьпечылі выбаршчыкам умовы рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права, каб кожны жадаючы мог прагаласаваць. Другі тур выбараў паказаў, што ўлады, бачачы маю перавагу перад супернікам, не забясьпечылі падвоз людзей з аддаленых вёсак на выбарчыя ўчасткі, члены участковых камісій не наведалі многіх састарэлых і хворых, каб тыя прагаласавалі па месцу жыхарства.

На паседжаньні камісіі гэта было маім галоўным патрабаваньнем - стварыць кожнаму выбаршчыку ўмовы, каб ён мог прагаласаваць. А галасаваць за таго ці іншага кандыдата або зусім не галасаваць - гэта асабістая справа кожнага. Такой гарантыі акруговая камісія не дала, спасылаючыся на тое, што яшчэ няма сродкаў і невядома, якія ўказаньні будуць зьверху.

Падаючы ў камісію свой палітычны пратэст, думалася, што ён прымусіць арганізатараў выбараў задумацца над сітуацыяй, крытычна прааналізаваць сваю дзейнасьць і дзейнасць участковых выбарчых камісій і ў сувязі з гэтым зрабіць ўсе захады, каб выбаршчыкі, хто жадае, маглі рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права. На жаль, гэтага здарылася.

Прашу Вас, шаноўныя прыхільнікі маёй кандыдатуры, зразумець мяне і прабачыць, але ў склаўшыхся абставінах, калі верхаводзіць дыктат улады, я не магу паступіць інакш.

З павагай,

**Тадэвуш Гавін.**

# ЗАЯВА
## ГАРАДЗЕНСКІХ ГАРАДЗКОЙ І АБЛАСНОЙ РАДАЎ БНФ

У нядзелю, 3 сьнежня, у праграме расейскага першага каналу тэлебачаньня «Воскресение» Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь сказаў літаральна наступнае: «Белорусская оппозиция выступает против русского народа».

Мы рашуча пратэстуем супраць падобных беспадстаўных і правакацыйных выказваньняў.

Беларускі Народны Фронт заўсёды абараняў, абараняе і будзе абараняць інтарэсы ўсіх грамадзян Беларусі незалежна ад іх нацыянальнасьці, веравызнаньня альбо колеру скуры.

# КАШТОЎНАСЬЦЬ ЛЕНІНА НЯ ВЫЗНАЧАНА

**Чацьвёртага сьнежня ў Лідзкім гарадзкім судзе пачаўся разгляд крымінальнай справы па абвінавачваньню рабочага лідзкай абутковай фабрыкі Віктара Федасевіча і былога настаўніка працы Першамайскай сярэдняй школы Ігара Струнеўскага ў пашкоджаньні помніка Леніну ля Лідзкага чыгуначнага вакзала.**

Нагадваем, што у ноч з сёмага на восьмае верасьня 1995 года правадыру ўсяго пралетарыяту была адбіта галава. Адбіта самым пралетарскім інструментам - кувадлаю. Аднак паседжаньне як пачалося, так і скончылася. У справе не аказалася паперы, якая б пацьвердзіла, ці зьяўляецца гэты помнік культурна-гістарычнай каштоўнасьцю. Пастаноўка пытаньня сама па сабе абсурдная. Якую каштоўнасьць можа ўяўляць кавалак гіпсу з выявай аднаго з галоўнейшых злачынцаў 20-га стагоддзя, вінаватага у гібелі мільёнаў людзей. Але паперы не аказалася і разгляд справы прыпынены.

**Яраслаў ГРЫНКЕВІЧ.**

# КАЛІ НЯ МОЖНА, АЛЕ ВЕЛЬМІ ХОЧАЦЦА

- то можна. Пакіраваўшыся такім прынцыпам, кіраўніцтва тэхнікума, які гарадзенцы называюць кааператыўным, вылучыла на майскіх выбарах кандыдатам у дэпутаты па Нёманскаму выбарчаму ўчастку выкладчыцу Ніну Валажаніну. Пратакол, пячаткі, подпісы, якія сьведчылі пра вылучэньне спадарыні Ніны працоўным калектывам тэхнікума, былі, а вось сходу працоўнага калектыву ... не было.

Чатырнаццаць абураных супрацоўнікаў тэхнікума, даведаўшыся з выбарчых бюлетэняў пра тое, што яны вылучылі кандыдатам у дэпутаты гэтую паважаную асобу, накіравалі рэзкі пратэст раённаму, гарадзкому ды абласному выбарчаму начальству. Пасьля разьбіральніцтва, вусна (па тэлефоне) ім адказалі, што «факт меў месца», але ж выбары не адбыліся, час прайшоў... Праўда, на апошняй у мінулым навучальным годзе леднарадзе дырэктар тэхнікума Іосіф Нячай паведаміў, што за гэты інцыдэнт яго ці то папярэдзілі, ці то паківалі пальцам, ці то яшчэ нейк сурова пакаралі...

...Прайшло паўгода. Дырэктар тэхнікума Іосіф Нячай выйшаў на пенсію і вылучаны ПКБ, як найлепшы з камуністаў, кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савету, зьбіраецца стаць заканатворцам. Былыя яго падначаленыя, якія адначасова зьяўляюцца сябрамі камісіі па выбарах, што працуе ў памяшканьні тэхнікума, будуць падлічваць галасы, падораныя электаратам самым вартым. Розьніца толькі ў тым, што ў маі яны падлічвалі галасы, якія былі аддадзены за «вылучэнку працоўнага калектыву» Ніну Валажаніну, а цяпер - за Іосіфа Андрэевіча.

Так трымаць! Усе на выбары!!!

Тым, хто хоча, каб іхныя дзеці хоць штосьці зразумелі ў гэтым...жыцьці, можна параіць аддаць сваіх дзетак у Гарадзенскі кааператыўны тэхнікум. Там ёсьць у каго павучыцца.

**Мікола ТУРАВЕЦ.**

МАР'ЯН ДУКСА

# ЛЮБІЦЕ СВАІХ ПРАРОКАЎ

**Зянону Пазьняку**

*Хвалу ім*
*нам бы ўзнесьці да аблокаў,*
*у гонар іхні*
*ўдарыць у званы...*
*Шануем дрэнна*
*мы сваіх прарокаў -*
*разумных хлопцаў*
*нашай стараны.*
*Ім цяжка ў нас*
*ад самых першых крокаў,*
*іх недаверам гасім*
*кожны міг.*
*Не заўважаем мы*
*сваіх прарокаў -*
*прыніжаных*
*апосталаў сваіх.*
*Хто ісьціну*
*ў змарнелым полі сее,*
*нямога людзтва*
*узвышае сан...*
*Чамусьці мы*
*залётным фарысеям*
*пад ногі сьцелем*
*дарагі дыван.*
*Ужо абрыдзеў*
*наш звычай халуйскі,*
*што вохкаем*
*і ўслужліва дрыжым.*
*Ці не зашчыра мы -*
*па-беларуску! -*
*насустрач хлусу*
*борздзенька бяжым?*
*Мо так згінацца*
*любіць наша шыя?*
*Аж плачам,*
*калі плуг не стае?*
*Няўжо так цяжка ўбачыць,*
*дзе чужыя?*
*Няўжо уцяміць нельга,*
*дзе свае?*
*На хітрасьці*
*не ўзыдзе плён ніякі,*
*не атрымаем*
*зерня ад прыблуд.*
*На іх аблічах -*
*д'ябальскія знакі...*
*Прыгледзься лепей,*
*хрысьціянскі люд.*
*А праўда ёсць -*
*яна на відавоку,*
*яна ўжо зззяе,*
*як сьвяты абраз.*
*Усё ж любіце вы*
*сваіх прарокаў -*
*яны ў кастры жыцця*
*гараць за вас.*
*Прабіўшыся*
*з глыбінь жывых, з вытокаў,*
*у неба вас*
*узносяць на крыле...*
*Паслухайце вы ўсё ж*
*сваіх прарокаў*
*з выявай Веры Божай*
*на чале.*

# СТАРШЫНЯ ЛІДЗСКАЙ РАДЫ БНФ У ГАРСАВЕЦЕ.

**Пад час першага туру выбараў у Лідзкі гарадзкі Савет да чатырох травеньскіх дыпутатаў дабрана яшчэ дзевяць. Пяцёра з іх прыхільнікі лідзкага дэмакратычнага блоку. Сярод іх уласны карэспандэнт "ПАГОНІ" Станіслаў Суднік - старшыня Лідзкай гарадзкой рады Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», Аляксандр Сокал - сябар Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады і інш.**

У другі тур выйшлі 24 прадстаўнікі дэмблокаў па 22 акругах.

Па шасьці з сямі акруг выйшлі прадстаўнікі дэмблоку ў другі тур выбараў дэпутатаў абласнога Савету. Ва ўсіх акругах яны займаюць першыя месцы. Нагадваю, што Лідзкі дэмакратычны блок утвараюць Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Саюз палякаў Беларусі і Таварыства Польскай культуры імя Адама Міцкевіча.

**Ігнат ХІТРОВІЧ.**

# ГРАМАДЗТВА

## МАНАПОЛІЯ НАВАТ НА МОГІЛКАХ

Абсурднасьць многага з таго, чаму цябе вучылі ў школе ды ВНУ у савецкія часы, становіцца відавочнай толькі сёньня. Слова «манапалізм", якое, здавалася б, мела дачыненьне толькі да гнілога капіталізму, сёньня зьяўляецца неадымнай характарыстыкай постсавецкай беларускай эканомікі. Гэтая зьява ахоплівае больш паловы ўсёй прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасьці, дзьве трэція гандлю і амаль усе транспартныя паслугі.

6 сьнежня прэсканферэнцыю для журналістаў правёў старшыня абласнога камітэта па антыманапольнай палітыцы сп. Леанід Кардаш.

Ён адзначыў, што ў вобласьці сёньня 126 прадпрыемстваў-манапалістаў рэспубліканскага і мясцовага падпарадкаваньня. Штогод каля 30% з іх праходзяць праверку службамі камітэту. Вынікі гэтых праверак уражваюць - кожнае другое прадпрыемства парушае законы. У асноўным гэта датычыць коштаўтварэньня, якое сёньня аддадзена ў рукі кіраўнікоў прадпрыемстваў. У ліку парушальнікаў называліся лідскае «Лакафарба», пальчаткавая фірма «Акцэнт», аўтапрадпрыемства «Лада». Да іх і некаторых іншых прадпрыемстваў у гэтым годзе ўжо былі ужытыя грашовыя санкцыі. Да прыкладу 100 мільёнаў было спагнана з пахавальнага камбіната.

Але спагнаць грошы сёньня - справа цяжкая. Той жа «Акцэнт» зьбіраліся аштрафаваць на 600 мільёнаў. Затым суму зьнізілі да 200 мільёнаў. Але ж фірма і так ледзь дыхае. Заробная плата на ёй у два разы ніжэй за сярэднегарадзкія паказчыкі і складае крыху больш 400 тысячаў рублёў. Любыя санкцыі супраць прадпрыемства аўтаматычна б'юць па кішэні рабочых. У такіх умовах казаць пра тое, што антымапольная палітыка праводзіцца ў Беларусі пасьлядоўна і дае адчувальныя вынікі надзвычай цяжка.

Засьведчыўшы сваю падтрымку курсу на пабудову «рыначнага сацыялізму» сп. Кардаш прызнаў, што ўмоваў для разьвіцьця рынку фактычна няма, што «сьпіраль інфляцыі не спыняецца», што рэальная зарплата за апошнія гады зьменшылася ў 3-4 разы.

Уласьцівая рыса нашай улады: галава працуе ў адзін бок, а ногі ідуць у другі - «па курсу».

**Вітаўт РУДНІК.**

## ЯК АЛЯКСАНДР РЫГОРАВІЧ КАМАНДУЕ ЭКАНОМІКАЙ

**Згодна інфармацыі, якая паступіла з кампетэнтных крыніц у Кабінеце міністраў, у выканаўчых структурах улады актыўна абмяркоўваецца Указ Аляксандра Лукашэнкі N 483 «Аб забесьпячэньні своечасовай выплаты заработнай платы».**

Значная частка чыноўнікаў Кабінета міністраў, прадстаўнікоў прэзідэнцкай вертыкалі, дырэктарскі корпус лічаць, што рэалізаваць палажэньні Указа можна толькі пры ўмове дадатковага выдзяленьня сродкаў з бюджэту. Гэта тлумачыцца тым, што з прычыны дэфіцыту дзяржбюджэту, спыненьне шэрагу прадпрыемстваў, адсутнасьці рынкаў збыту прадукцыі і прагрэсуючага працэсу неплацяжоў неабходных грашовых сродкі для выплаты зарплатаў адсутнічаюць.

Найбуйнейшыя заводы рэспублікі знаходзяць своеасаблівыя выхады з тупіковай сітуацыі. У прыватнасьці, на Мінскім аўтазаводзе прынята рашэньне з 4 сьнежня спыніць працу некаторых цэхаў, адправіўшы працоўных у вымушаны адпачынак, з аплатай толькі 2/3 месячнага заробку. На Мінскім трактарным заводзе не выплочваецца зарплата з кастрычніка прадстаўнікам адміністрацыі, функцыянуючай пры заводзе паліклінікі, спорткомплексу і Палацу культуры. Ня выключана, што завод з 1996 года адмовіцца ад утрыманьня на сваім балансе трох апошніх аб'ектаў. Аршанскі завод «Легмаш» з-за адсутнасьці заказаў на сваю прадукцыю працуе не на поўную магутнасьць, што зьяўляецца прычынай зьніжэньня заробкаў.

На асобных прадпрыемствах Менска, Бабруйска, Брэста і шэрагу ішых гарадоў з персаналам разьлічваюцца сваёй прадукцыяй. У большасьці райвыканкамаў няма сродкаў,каб разьлічыцца з запазычанасьцю па зарплаце з настаўнікамі і лекарамі.

Яшчэ больш цяжкая сітуацыя склалася ў сельскай гаспадарцы, дзе на банкаўскіх рахунках большасьці калгасаў і саўгасаў грошай няма. Напрыклад, у аграпрамысловым сектары Чэрвенскага раёну Менскай вобласьці з 23 гаспадарак толькі пяць змаглі выплаціць заробак калгасьнікам за кастрычнік-лістапад. Практычна аналагічная сітуацыя і ў іншых рэгіёнах Беларусі.

Упершыню за доўгі час мае гэтую праблему Міністэрства абароны. У падраздзяленьнях войскаў сувязі, дыслакаваных у Менску, у лістападзе была выплачаная адно грашовая кампенсацыя замест належнага харчовага пайка. Тая ж тэндэнцыя існуе і ў іншых вайсковых гарнізонах. Пад пытаньнем выплата вайскоўцам штогадовай трынаццатай зарплаты. Маюць месца затрымкі з выплатай сум, кампенсуючых расходы на камандыроўкі і рэчавае забесьпячэньне. Міністэрства ўнутраных спраў і Камітэт дзяржбясьпекі зьяўляюцца аднымі з нямногіх структураў, якіх не дакрануліся гэтыя праблемы.

Некаторыя аналітычныя колы сыходзяцца на думцы, што выданьне Указа зьяўляецца чарговым папуліцкім крокам прэзідэнта. Валодаючы інфармацыяй аб маючых адбыцца ў сьнежні акцыях прафсаюзаў, А.Лукашэнка такім чынам імкнецца зьмягчыць іх эфектыўнасьць і перакласьці адказнасьць на міністэрствы і падначаленых ім юрыдычных асоб. У той жа час крыніцы ў Кабінеце міністраў упэўнены, што запазычанасьць па зарплаце ўдасца ліквідаваць толькі ў студзені наступнага года, калі суб'ектам гаспадараньня будуць пералічаны грошы з бюджэту на 1996 год.

**СІМ**

## ЗАМЕЖНЫЯ НАЗІРАЛЬНІКІ НА ГАРАДЗЕНШЧЫНЕ

За першым турам выбараў у заканадаўчыя ворганы Беларусі ўсіх узроўняў на Гарадзеншчыне назіралі і замежныя назіральнікі з Канады, ЗША, Летувы, Польшчы, а таксама з Рады Эўропы. Яны, у прыватнасьці, пабывалі на выбарчых участках у Смаргоні, Лідзе, Слоніме. На асобных участках былі адзначаныя пэўныя парушэньні Закону аб выбарах. Напрыклад, агітацыя ў дзень выбараў. Прычым на выбарчых участках. Плануецца, што і 10 сьнежня замежныя назіральнікі наведаюць выбарчыя ўчасткі некаторых гарадоў і мястэчак вобласьці.

**В.М.**

## ПРАМОЕ КІРАВАННЕ — ШТО ГЭТА?

### (ПАЛІТАЛАГІЧНЫ ВОПЫТ)

**Некалькі тыдняў таму наш прэзідэнт абвясьціў усіх, што ў некаторых выпадках павінен будзе ўвесьці прамое прэзідэнцкае кіраваньне. Паразважаем трохі, што гэта такое.**

Зараз выканаўчая ўлада належыць прэзідэнцкай вертыкалі. Што гэта, як не прамое кіраваньне? А вось заканадаўчая ўлада зараз незалежна ад выканаўчай (гэтак, прабачце, па канстытуцыі). Яшчэ існуе судовая ўлада, якая павінна быць незалежнай ад усіх іншых.

Дык чаго яшчэ не хапае прэзідэнту? Каб яму падпарадкоўваліся і Вярхоўны Савет і судовыя ўлады? Але ж гэта мы ўжо праходзілі. Толькі называлася гэта не «прэзідэнцкае праўленьне», а «кіруючая роля партыі».

Да і наогул, што гэта за прамое кіраваньне? Калі суд выносіць прыгавор па знаку прэзідэнта, ці яго падначаленых? Калі Вярхоўны Савет зацьвярджае законы толькі з яго рук, ці наогул законы зацьвярджае ён сам (як і зараз)? Хіба гэта прамое кіраваньне? Гэта самы тыповы прыклад «крывога кіраваньня». Крывога таму, што прынцып «чаго пажадаецё», накіраваны на адну асобу, няхай нават і легітымную, ужо добра вядомы ў свеце. Ня будзем параўноўваць з тым ці іншым адрэзкам гісторыі нашай альбо іншай краіны, але адзначым, што гэта тыповы прыклад таталітарнага кіраваньня, якое ня можа ня быць крывым па азначэньню. Бо калі ўсе галіны ўлады скруціць у барані рог, то не скрывісь немагчыма.

Як палітолаг з дарэвалюцыйным стажам хачу ўзбагаціць навуку новым палітычным тэрмінам. Як заўсёды будзем ужываць латынь і грэцкія словы. Крывое кіраваньне - адпаведны тэрмін будзе гучаць так - курвакратыя (kurvos - крывы, кратыя - праўленьне).

А хто, цікава, захоча жыць пры курвакратыі?

**МАКСІМ ГОРКІ**

## ДЫК ХТО ВЫПУСКАЕ «УТКИ»?

**Тыдзень таму сродкі масавай інфармацыі ўсяго сьвету (у тым ліку і «Пагоня») перадалі інтэрв'ю беларускага прэзідэнта нямецкай газеце «Хандэльсблат». У ім Аляксандр Рыгоравіч, у прыватнасьці, адзначыў, што «...Нямецкі парадак фармаваўся стагоддзямі. Пры Гітлеры гэта фармаваньне дасягнула найвышэйшай кропкі.**

**Гэта тое, што адпавядае нашаму разуменьню прэзідэнцкай рэспублікі і ролі ў ёй прэзідэнта...»**

Адразу пасьля зьяўленьня інтэрв'ю на старонках расейскага і беларускага друку, ведамства Замяталіна пачало «адбельваць» рэпутацыю свайго Фю... прабачце, Прэзідэнта. У ролі галоўнага рэабілітатара выступіў сам сп. Замяталін, які назваў інтэрв'ю «обыкновенной журналистской «уткой».

На працягу тыдня нам у рэдакцыю тэлефанавалі людзі, якія не маглі паверыць, што прэзідэнт краіны, якая ў гады II сусьветнай вайны найбольш пацярпела ад нямецкага фашызму, мог дазволіць сабе такія словы. Каб расставіць усе кропкі над «і», прапануем вашай увазе надрукаваны ў «Известиях» (N 227 ад 30 лістапада 1995г.) ліст аўтара інтэрв'ю - карэспандэнта «Хандэльсблат» Маркуса Цынэра.

«У газеце «Известия» апублікавана паведамленьне вашага менскага карэспандэнта аб інтэрв'ю прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі нямецкай эканамічнай газеце «Хандэльсблат». Пры гэтым складаецца ўражаньне, што выказваньні спадара Лукашэнкі з нагоды германскага нацыяналсацыялізму і Адольфа Гітлера былі надрукаваныя ў «Хандэльсблат». Я асабіста праводзіў гэтае інтэрв'ю і хацеў бы ўнесьці наступныя ўдакладненьні.

Цытуемыя выказваньні спадара Лукашэнкі сапраўды мелі месца ў інтэрв'ю. Але нашая рэдакцыя прыняла рашэньне гэтыя выказваньні не публікаваць і, у прыватнасьці, зыходзіць з таго, каб не прадстаўляць буйную надрэгіянальную нямецкую газету ў якасьці трыбуны для такога роду тэзісаў.

«Гляжусь в тебя —
Как в зеркало,
До головокруженья.
И вижу в нем —
Любовь мою,
И думаю о ней...»

**Маркус Цынэр, карэспандэнт».**

## ЗАРПЛАТУ НАЛІЧВАЮЦЬ КІЛАГРАМАМІ

**Панядзелак. Дзень зарплаты. Ля ўваходу на сьвінакомплекс выстройваецца чарга калгасьнікаў з мехамі ды вяроўкамі за плячыма. Хутка пачнуць важыць заробленыя «грошы».**

Прыблізна так выглядае працэдура атрыманьня грошай у адным з калгасаў Астравеччыны, дзе з-за адсутнасьці грошай з людзьмі разьлічваюцца мясам. Хто зарабіў больш, можа атрымаць жывога падсьвінка, хто крыху менш - кумпяк ад яго і г.д. На наступны дзень пасьля «зарплаты» калгасьнікі едуць «абменьваць валюту» - прадаваць мяса ў Астравец ды навакольныя вёскі. Часам адбываецца і натуральны абмен - мяса на масла, якім расплочваюцца зь людзьмі ў суседнім калгасе. Цяжэй за ўсё прыходзіцца тым калгасьнікам, якія атрымоўваюць заробак жытам ды ячменем - вялікім попытам у гараджан гэтыя «грошы» не карыстаюцца.

Таму, пакінуўшы неабходны для хатняй жывёлы мінімум зерня, сяляне нясуць лішкі мясцовым «сьмірновым» ды «распуціным», якія сьпецыялізуюцца на вырабе ўласнай лікёра-сівушнай прадукцыі. Атрымаўшы ўзамен пэўную колькасьць літраў, можна хутка пераўтварыць іх у грошы, каб дацягнуць да наступнай «зарплаты».

Цікава, ці задумваўся хоць хто з абраных у Вярхоўны Савет аграрняў, што будзе тады, калі перарэжуць усіх сьвіней ды ня хопіць зерня каб пасеяць новы ўраджай?

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**

## НАВАТ МАГАЗІНЫ НІКОМУ НЕ ПАТРЭБНЫ

30 лістапада ў Горадні прайшоў чатырнаццаты аўкцыён па продажу аб'ектаў камунальнай уласнасьці.

На аўкцыён былі выстаўленыя тры прамтаварныя крамы, прадуктовая крама, рэстарацыя і права забудовы зямельнага ўчастку ў гістарычнай частцы горада. У адкрытым аўкцыёне прынялі ўдзел толькі два чалавекі. На жаль быў прададзены ўсяго адзін аб'ект - прадуктовая крама за 1.310.000.000. рублёў, пры стартавым кошце 1.188.000.000. рублёў. На астатнія аб'екты не было дастатковай колькасьці заявак і таму яны былі зьняты з аўкцыённых таргоў.

**Ул. інф.**

## УСЁ НАЎКОЛ КАЛГАСНАЕ...

Закончаныя палявыя работы ў Воранаўскім раёне і даволі даўно, а вось заработная плата калгасьнікам практычна ня плаціцца. Так, па стану на 25 кастрычніка з 20 гаспадарак не была выплачана заработная плата за чэрвень у 3 гаспадарках, за ліпень у 11, за жнівень у 16, за верасень у 18 гаспадарках. Рэгулярна плаціцца заробак толькі ў калгасах «За Радзіму» і «Тракельскі».

**Зьміцер СВІСТУНОВІЧ.**

## ПАГАЛОЎЕ ЖЫВЁЛЫ БУДЗЕ ПАДАЦЬ

**Беларусь быццам трапіла ў нейкую фантастычную машыну часу і ўсё імклівей нясецца ў мінулае. Адменены нацыянальныя сімвалы, ідзе ўціск мовы, на даляглядзе апошняя стадыя таталітарызму - наўпраставае прэзідэнцкае кіраваньне. Кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый атрымалі цыркуляр пра ўвядзеньне палітдзён і палітзаняткаў, а зараз мы, здаецца, дайшлі і да харчразьвёрсткі.Прынамсі, у Лідзкім раёне.**

Сустрэча прадстаўнікоў БНФ з кіраўнікамі калгасаў і саўгасаў Лідзкага раёну высьвяціла цікавую зьяву. Аказваецца, гаспадаркі Лідчыны ўступілі ў зіму без фуражнага збожжа, а многія і без насеннага. Рэч ў тым, што ўсе збожжавыя запасы былі гвалтоўна выбраны з гаспадарак раённай вертыкальлю, каб «прагнуцца» і выканаць план продажу хлеба дзяржаве. Жывёле раёну засталіся буракі, бульба і сена, вядома наколькі хопіць. Камбікорму чакаць не выпадае, бо зерне забралі па 750 рублёў за кілаграм, а камбікорм мае цану ў два разы большую, тым больш, што грошай за зерне ўсё роўна яшчэ не вярнулі.

Такім чынам, чакаецца масавая зьменшэньне пагалоўя жывёлы на Лідчыне, бо карміць няма чым. Зіму будзем з мясам, а далей?

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**





# ДА 2000 ГОДА Ў ГОРАДНІ БУДЗЕ МЯЧЭЦЬ

**Вясной наступнага года мусульманская суполка Горадні плануе распачаць у лесапарку Румлёва будаўніцтва мячэці.**

Першыя мусульмане на Беларусі зьявіліся каля 700 гадоў назад. У XV стагоддзі ў Ласосьне пад Горадняй была пабудавана мячэць, якая да нашых дзён не захавалася.



Сёньня ў Горадні жыве крыху больш тысячы мусульманаў. Каля 850 чалавек - беларускія татары, продкі якіх жылі тут стагоддзямі. Астатнія - перасяленцы з Сярэдняй Азіі, Паволжа і Каўказу, якія прыехалі сюды ў пасьляваенныя гады. Акрамя таго ў навучальных установах горада вучыцца сёньня больш 300 студэнтаў з Пакістану ды іншых арабскіх краін.

Ініцыятарам пабудовы новай мячэці стала Рэлігійнае аб'яднаньне мусульманаў Горадні. У 1992 годзе быў створаны камітэт па будаўніцтву на чале з мухтасібам Беларусі Алі Крыніцкім. Эскізны праект мячэці распрацаваны групай менскіх і гарадзенскіх архітэктараў на чале з Алі Смольскім і ўзгоднены горадабудаўнічым саветам пры галоўным архітэктары Горадні.

На працягу бліжэйшых трох-чатырох гадоў плануецца пабудаваць мячэць на сто вернікаў. На гэта спатрэбіцца каля 160 тысяч долараў. Яшчэ 50 тысяч пойдзе на пабудову інжынерных сетак, добраўпарадкаваньне тэрыторыі. У далейшым побач з мячэцьцю павінен зьявіцца будынак, у якім будуць разьмешчаныя вучэбныя класы, бібліятэка і чытальня, майстэрня, гатэль, кавярня.

Такім чынам, традыцыі талеранцыі, закладзеныя ў часы Вялікага княства ў Горадні жывуць і сёньня.

**В.РУДНІК.**

# КАНГРЭС ВЯЗЬНЯЎ І АХВЯР ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСІЙ

**7-8 лістапада ў Кіеве адбыўся кангрэс вязьняў прабальшавіцкіх камуністычных рэжымаў. У яго рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі з 21-ой краіны Эўропы, Азіі і Амерыкі.**

**Найбольш няёмка на кангрэсе адчувалі сябе беларусы, паколькі было сорамна падымаць вочы на сваіх сяброў, якія пыталіся: як стала магчыма, што народ галасаваў супраць сваёй мовы, сваіх гістарычных сімвалаў. Апраўдвацца не было ніякага сэнсу, бо да ўлады дапусьцілі манкуртаў.**

Кангрэс прыняў заяву да сусьветнай грамадзкасьці аб неабходнасьці міжнароднага суду над камуністычнымі партыямі і прыцягненьня іх да адказнасьці за зьдзейсьненыя злачынствы перад народамі краін так званага сацыялістычнага лагеру. Прапанавана дзень 7 лістапада лічыць днём памяці ахвяр камуністычных рэжымаў.

Асобна было прынята рашэньне лічыць дзяцей расстраляных бацькоў і тых, чые бацькі былі закатаваны ў лагерах гулага - палітычнымі вязьнямі, паколькі гэтыя дзеці цярпелі пакуты і зьдзек ад камуністычных і фашысцкіх рэжымаў. Лічыць пачэснымі грамадзянамі людзей, якія змагаліся за свабоду і незалежнасьць сваіх краін, супраць злачынных камуністычных і фашысцкіх рэжымаў.

Наконт Беларусі была прынята асобная пастанова, у якой адзначаецца небясьпека аднаўленьня камуністычнага рэжыму ў краіне, і з гэтай нагоды ўсялякім чынам спрыяць і дапамагаць антыкамуністычным арганізацыям рэспублікі.

**Г.КЛІМОВІЧ,**
**удзельнік кангрэсу.**

# БЕЛАРУСЬ ХОЧА Ў СУСЬВЕТНУЮ ГАНДЛЁВУЮ АРГАНІЗАЦЫЮ

**Як стала вядома, 5 сьнежня ў Жэневе прадстаўнікі Беларусі перадалі ў штаб-кватэру Сусьветнай Гандлёвай Арганізацыі (СГА) Мемарандум аб зьнешнегандлёвай палітыцы Беларусі.**

Каментуючы гэту падзею, начальнік аддзела па рабоце з міжнароднымі эканамічнымі арганізацыямі Міністэрства зьнешнеэканамічных сувязяў Віктар Шых заявіў, што далучэньне да СГА дазволіць Беларусі стаць раўнапраўным удзельнікам міжнароднага гандлю, адстойваючы свае інтарэсы ў адпаведнасьці з зафіксаванымі агульнапрынятымі нормамі, пазьбягаючы дыскрымінацыі і антыдэмпінгавых перасьледаў.

Пасьля таго, як у студзені мінулага года Беларусь перадала заяву на ўступленьне ў СГА, краіна атрымала статус назіральніка пры гэтай міжнароднай арганізацыі. Па словах сп. Шыха ў сярэднім тэрмін далучэньня да СГА ад 3 да 5 гадоў. "Аднак гэта не азначае, што Беларусь укладзецца ў гэтыя тэрміны. Кітай напрыклад, 8 гадоў спрабаваў далучыцца да СГА" - заявіў спадар Шых.

На пытаньне аб уплыве мытнага саюзу паміж Беларусьсю і Расеяй на хуткасць уступленьня Беларусі ў СГА сп. Шыху было адказаць цяжка. У той жа час ён паведаміў, што Расея падала Мемарандум аб уступленьні ў СГА яшчэ ў лютым мінулага года, і зараз павінна адбыцца другое паседжаньне міжнароднай камісіі па Расеі.

**СІМ**

# СТРАЙК НА МЯЖЫ

**Каля сямі гадзінаў блакавалі памежны пераезд у Кузьніцы кіроўцы замежных грузавых аўтатранспартаў, выказваючы тым самым пратэст супраць зьдзеку з чалавечай годнасьці, які штодня ўчыняецца на беларуска-польскай мяжы. На тое, каб яе перасячы, часам патрэбна чакаць больш сутак.**

Сітуацыя павінна палепшыцца з частковым адкрыцьцём сьпецыяльнага праезду для вялікагрузнага транспарту ў Баброўніках, якое плануецца ў сьнежні. Але й там, падобна, праблема чэргаў ня вырашыцца, бо канчаткова ўведзены ў эксплуатацыю гэты пераезд будзе толькі летам 1996 года.

**В.Р.**

# РАСЕЙЦЫ ЛЮБЯЦЬ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ

**Пра гэта, прынамсі, паведаміла Упраўленьне грамадзка-палітычнай інфармацыі Замяталіна, прывёўшы вынікі сацыялагічнага дасьледаваньня, праведзенага ў Расеі.**

На пытаньне, каго з замежных кіраўнікоў дзяржаваў Вы хацелі б бачыць прэзідэнтам Расеі, 36 працэнтаў расейцаў назвалі Лукашэнку. Значна адсталі ад яго Э.Шэварнадзэ ( 5 працэнтаў) і Н.Назарбаеў (4 працэнты).

Гэтая інфармацыя яўна мае намер засьведчыць, што расейская прэса, якая апошнім часам літаральна спляжыла беларускага прэзідэнта, зусім не адлюстроўвае настрої расейскага грамадзтва, якое сьніць і марыць, што адновіцца Савецкі Саюз на чале з Генсекам А.Л.

Забыўшыся пра свой народ, можна пацешыцца і ілюзіяй любові суседняга...

**В.М.**

# ПАДАРУНАК З ГДАНЬСКУ

На мінулым тыдні Ліду наведаў вядучы журналіст гданьскай газеты «Дзённік балтыцкі» Станіслаў Чайкоўскі, які мае на Лідчыне нямала сяброў. Польскі госьць падараваў мясцоваму настаўніку Мікалаю Кучынскаму альбом з даваенными паштовымі маркамі Гданьску.

**Ігнат ХІТРОВІЧ.**

# КУРСЫ НАСТАЎНІКАЎ ПОЛЬСКАЙ МОВЫ

Пяць дзён на базе ашмянскай СШ N2 працавалі абласныя курсы настаўнікаў польскай мовы. Для правядзеньня курсаў з Польшчы былі запрошаны адпаведныя сьпецыялісты. У прыватнасьці, з Любліна прыязджалі доктар Ёанна Вуйтовіч, магістры Малгажата Малыска і Яцэк Шпунар. Кіравала курсамі метадыст Абласнога інстытуту ўдасканаленьня настаўнікаў М.Майсевіч.

**Зьміцер СЬВІСТУНОВІЧ.**

# У РЭДАКЦЫЮ ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЙ ГАЗЕТЫ "ПАГОНЯ"

Беларуская дыяспара Масквы абурана заявамі прэзідэнта Беларусі Лукашэнкі, якія ён выказаў у сваім выступе 27 лістапада. З гэтае нагоды беларусы Масквы тэрмінова вырашылі сабраць сход актыву дзеля абмеркаваньня дзейнасьці ва ўмовах устанаўленьня дыктатуры на Беларусі. Лічым абразным для беларусаў параўнаньне Бацькаўшчыны з гітлераўскай Нямеччынай, хаця і не зьдзіўлены, што Лукашэнка параўноўвае сябе з Гітлерам і Сталіным - катамі і забойцамі беларускага народу. Тое, што адбываецца забарона прэсы на тэрыторыі Беларусі - яскравы доказ палітычнага «беспрадзелу». Учора, па Пецярбурскім канале быў прадэманстраваны дакументальна-публіцыстычны фільм «Прэзідэнт Лукашэнка вачыма апазіцыі». Па нашых зьвестках, на тэрыторыі нашае дзяржавы было спынена вяшчаньне гэтага каналу. Ня будзе нечаканасьцю, калі будзе забаронена дзейнасьць тэлекампаніі НТВ і іншых, якія перадаюць ня тую інтэрпрэтацыю падзеяў, якія гатуюцца на палітычнай кухні-прыбіральні адміністрацыі прэзідэнта. На жаль, у гэтым кірунку ідзе маскоўскае аддзяленьне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", як супрацоунік; выказваем з гэтае нагоды свае шкадаваньні.

Выказваем сваю падтрымку ўсім нацыянальна-дэмакратычным рухам.

Жыве Беларусь!

**Сябар**

# КАЛІ ЗЬЯВІЛІСЯ «ЧЫРВОНА-КАРЫЧНЕВЫЯ», АБО ЯК ЗОРКА І СВАСТЫКА ЛЕДЗЬ НЯ СТАЛІ СІМВАЛАМІ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

**Гэты дакумант быў знойдзены расейскім гісторыкам Уладзімірам Дайнэсам у Цэнтральным дзяржаўным архіве Савецкай арміі незадоўга перад скананьнем СССР. Упершыню яго надрукаваў часопіс «Столица» у N 15(21) за 1991 г. Думаю, што і беларускаму чытачу будзе цікава пазнаёміцца з ім.**

«Приложение к приказу войскам Юго-Восточного фронта с.г. N 213.

ОПИСАНИЕ

Ромб 15х11 сантиметров из красного сукна. В верхнем углу пятиконечная звезда, в центре - венок, в средине которого «ЛЮНГТН» с надписью «Р.С.Ф.С.Р.» Диаметр звезды 15 мм, венка - 6 см, размер «ЛЮНГТН» - 27 мм, букв - 6 мм.



Знак для командного и административного состава вышит золотом и серебром и для красноармейцев трафаретный.

Звезда «ЛЮНГТН» и лента венка вышиты золотом (для красноармейцев жёлтой краской), сам венок и надпись - серебром (для красноармейцев -белой краской)».

Што да гісторыі зьяўленьня гэтага сімвала, дык ведама зусім нямнога. Створаны «ромб» быў у 1918-1919 г.г. У гэты час Паўднёва-Усходнім фронтам камандаваў Васіль Шорын, былы палкоўнік расейскай арміі, расстраляны напрыканцы 30-х гадоў. Ведама, што былі і іншыя праекты сімволікі для Чырвонай Арміі, але яны, як і «ромб», не былі прынятыя кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі. Няведама, хто непасрэдна стварыў гэты сімвал, хто і чаму яго адверг, і што азначае «ЛЮНГТН».

Аляксандр Фітц піша: «Не понятно, почему лопасти свастики, которая у древних являлась символом плодородия, загнуты в другую сторону». Мне здаецца, што тут няма нічога незразумелага. Справа ў тым, што падобная свастыка акамулюе адмоўную (цёмную, сатанінскую) энергію, праваднікамі якой і зьяўляліся б тыя, хто меў бы яе на сваёй уніформе. Бальшавікі вырашылі, што ім будзе дастаткова адмоўнай энергіі пяціканцовай зоркі. Ну, а фашыстам даспадобы аказалася свастыка.

Сёньня расейскія фашыстоўскія арганізацыі актыўна выкарыстоўваюць свастыку. Адзіным фронтам з імі ідуць камуністыя, якія яшчэ трымаюцца сваіх старых сімвалаў. Але хто ведае, што будзе заўтра? Можа «товарищи» захочуць выправіць памылку сваіх «учителей», бо нездарма ж іх клічуць «чырвона-карычневымі».

**Міхась ШУКАЙЛОВІЧ.**

